Ю. В. ЧАРНЯКЕВІЧ

# АТЛАС
# ГАВОРАК
## ПАЎНОЧНА-ЎСХОДНЯЙ БРЭСТЧЫНЫ

УДК 811.161.3’282.2(476.7)(084.4)
ББК 81.2 Бел-67
Ч-21

Навуковы рэдактар:
загадчык кафедры беларускага мовазнаўства БДПУ імя Максіма Танка,
кандыдат філалагічных навук, дацэнт *П.А. Міхайлаў*

Рэцэнзенты:
загадчык кафедры гісторыі беларускай мовы БДУ, доктар філалагічных навук,
прафесар *М.Р. Прыгодзіч*
кандыдат філалагічных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь
*Ф.Д. Клімчук*

**Чарнякевіч, Ю. В.**

Ч-21 Атлас гаворак паўночна-ўсходняй Брэстчыны / Ю. В. Чарнякевіч. – Мінск : Тэхналогія, 2009. – 255 с.

ISBN 978-985-458-191-0

Рэгіянальны атлас складаецца з 365 лінгвістычных картаў, у тым ліку 90 фанетычных, 74 марфалагічных, 180 лексічных і 20 ізаглосных. Гэтыя карты прысвечаны найбольш важным з’явам моўнай сістэмы гаворак жыхароў паўночна-ўсходняй Брэстчыны.

Вялікі фактычны матэрыял выдання можа быць выкарыстаны пры выкладанні курсаў дыялекталогіі, гісторыі беларускай літаратурнай мовы, гістарычнай граматыкі беларускай мовы для студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў, у распрацоўцы спецкурсаў і спецсемінараў, правядзенні лекцый і практычных заняткаў.

Праца будзе карыснай для навукоўцаў пры стварэнні новых рэгіянальных дыялектных атласаў, пры складанні праграм па вывучэнні беларускіх народных гаворак, пры параўнальным даследаванні гаворак беларускай і іншых славянскіх моў, пры вывучэнні фарміравання заходнепалескіх і гродзенска-баранавіцкіх гаворак.

**УДК 811.161.3’282.2(476.7)(084.4)**
**ББК 81.2 Бел-67**

**ISBN 978-985-458-191-0**

# Змест

# ПРАДМОВА

Лінгвагеаграфічныя даследаванні на Беларусі маюць ужо больш як стогадовую традыцыю. Як вядома, яны былі закладзены адным з першых даследчыкаў мясцовых гаворак, найбуйнейшым мовазнаўцам канца XIX – пачатку XX стагоддзяў Я.Ф. Карскім і мелі свой працяг у публікацыях П.А. Бузука. У другой палове XX стагоддзя найбольш грунтоўнае і паслядоўнае дыялекталагічнае і лінгвагеаграфічнае вывучэнне Беларусі ўвасобілася ў такіх фундаментальных працах айчынных навукоўцаў, як "Дыялекталагічны атлас беларускай мовы" (ДАБМ, 1963), "Лінгвістычная геаграфія і групоўка беларускіх гаворак" (ЛГГБГ, 1968, 1969), "Лексічны атлас беларускіх народных гаворак" (ЛАБНГ, у 5 т., 1993–1998).

На жаль, у стварэнні рэгіянальных дыялектных атласаў набыткі айчынных лінгвагеографаў больш сціплыя. На Беларусі праводзіліся лінгвагеаграфічныя даследаванні Тураўшчыны (калектыў навукоўцаў пад кіраўніцтвам А.А. Крывіцкага), Выганаўскага Палесся (Я.Р. Самуйлік), Бярозаўшчыны (Л.В. Леванцэвіч), Пружаншчыны (А.А. Босак). Аднак толькі Л.В. Леванцэвіч і А.А. Босак апублікавалі лінгвістычныя атласы па выніках даследаванняў.

Для нашага лінгвагеаграфічнага праекта мы вызначылі тэрыторыю паўночна-ўсходняй Брэстчыны – рэгіёна на памежжы Панямоння і Палесся. Як вядома, мясцовыя гаворкі знаходзяцца ў зоне міждыялектных кантактаў. На поўдзень ад названага рэгіёна праходзіць мяжа паміж асноўным масівам беларускіх гаворак і заходнепалескімі гаворкамі [ЛГГБГ, 1969: карты №71, №75]. А такія рэгіёны, як правіла, уяўляюць асаблівую цікавасць для навукоўцаў і патрабуюць дэталёвага лінгвагеаграфічнага вывучэння гаворак па максімальна густой сетцы апорных населеных пунктаў. Важна, каб сетка ўключала ўсе тыя населеныя пункты даследаванай тэрыторыі, у якіх захавалася карэннае насельніцтва. Гэта неабходна перш за ўсё для дакладнага вызначэння характару дыялектнага ландшафту паўночна-ўсходняй Брэстчыны: з'яўляюцца даследаваныя гаворкі самастойнымі моўнымі аб'яднаннямі ці належаць да іншых дыялектных адзінак, дзе праходзяць межы паміж асобнымі моўнымі з'явамі, які характар маюць пучкі ізаглос у рэгіёне і інш.

Фармулёўкі пытанняў у праграме (апытальніку) для збору фактычнага матэрыялу ўяўляюць сабою тры тыпы: "Як у вас вымаўляюць... (гавораць)", "Якія канчаткі (формы) маюць..." і "Як называецца...". Першы з іх выкарыстоўваецца для ўстанаўлення моўных фактаў у раздзеле "Фанетыка", другі – "Марфалогія", трэці – у раздзеле "Лексіка". Усяго "Апытальнік для збору матэрыялу па вывучэнні гаворак паўночна-ўсходняй Брэстчыны" змяшчае 344 пытанні (фанетыка – 90, марфалогія – 74, лексіка – 180). У выніку навуковай апрацоўкі сабранага фактычнага матэрыялу і наступнай яго ўніфікацыі складзена і падаецца ў Атласе 365 лінгвістычных картаў: 90 фанетычных, 74 марфалагічных, 180 лексічных і 20 ізаглосных, а таксама 1 карта групоўкі гаворак.

Пры збіранні матэрыялаў, як правіла, аўтар арыентаваўся на вывучэнне маўлення жыхароў старэйшага пакалення. Інфарматарамі былі пераважна жанчыны, што пражылі ў вёсцы ўсё сваё жыццё: тут яны нарадзіліся, выйшлі замуж, не пакідалі надоўга роднай вёскі, нярэдка не маюць агульнай сярэдняй адукацыі.

Фактычны матэрыял для Атласа сабраны асабіста аўтарам у межах абранай сеткі апорных населеных пунктаў, якая ўключае і тыя, што абследаваліся раней па апытальніках "Дыялекталагічнага атласа беларускай мовы" і "Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак". Палявыя даследаванні праведзены на працягу 2006–2007 гг. у 64 населеных пунктах Брэсцкай (Івацэвіцкі, Баранавіцкі, Ляхавіцкі, Пружанскі, Бярозаўскі, Пінскі, Ганцавіцкі раёны), Гродзенскай (Слонімскі і Зэльвенскі раёны) і Мінскай (Клецкі раён) абласцей.

Для запісу матэрыялаў выкарыстана фанетычная транскрыпцыя, рэкамендаваная пры зборы дыялектных фактаў для ДАБМ [гл. ДАБМ, 1963, с. 34–35] з некаторымі нашымі зменамі: вымаўленне свісцячай афрыкаты [дз] і шыпячай афрыкаты [дж] перадаецца на пісьме як [дз], [дж] (а не [z], [ž]); білабіяльны гук [в] абазначаецца як *w*; санорны гук [й] перадаецца літарай *й*; заднеязычны фрыкатыўны гук [г] на пісьме перадаецца як *г*, а графемай *g* абазначана вымаўленне заднеязычнага выбухнога [г].

У адказах на "Апытальнік..." падкрэсліванне нумара азначае, што ў дадзеным населеным пункце існуе два ці больш варыянтаў адказу.

Такім чынам, лінгвістычныя карты "Атласа гаворак паўночна-ўсходняй Брэстчыны" прысвечаны найбольш важным з'явам моўнай сістэмы гаворак жыхароў паўночна-ўсходняй Брэстчыны.

Аўтар выказвае падзяку навуковаму кіраўніку, загадчыку кафедры беларускага мовазнаўства Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка, кандыдату філалагічных навук, дацэнту Паўлу Міхайлаву за каштоўную дапамогу ў працы над стварэннем гэтага атласа, а таксама ўсім людзям, якія спрыялі выхаду ў свет выдання: Віталю і Аксені Шураўкам, Аляксандру Стэльмаху і ўсёй камандзе сайта Onliner.by за разуменне і падтрымку; Алене Талапіле, Антону і Станіславу Калеснікам за давер і спрыянне; Вадзіму Шклярыку за інфармацыйнае забеспячэнне.

Асаблівая падзяка ўсім тым бабулям, якіх давялося апытваць, усяму таму пакаленню, чыё дзяцінства і маладосць прыпалі на цяжкія ваенныя і пасляваенныя гады. Гэтым людзям аўтар і прысвячае сваю працу.

## СПІС АБСЛЕДАВАНЫХ НАСЕЛЕНЫХ ПУНКТАЎ

| № на карце | Назва населенага пункта | № на карце | Назва населенага пункта |
|---|---|---|---|
| 1 | Уласы | 31 | Добрынева |
| 2 | Лаўрынавічы | 32 | Дабромысль |
| 2а | Шылавічы | 33 | Верчыцы |
| 2б | Туркі | 34 | Жамайдзякі |
| 3 | Каралін | 35 | Старажоўшчына |
| 4 | Селявічы | 36 | Падстарынь |
| 5 | Паўлавічы | 37 | Магіліцы |
| 6 | Сурынка | 38 | Свяціца |
| 7 | Залессе | 39 | Боркі |
| 8 | Падгорная | 40 | Альшаніцы |
| 9 | Тартакі | 41 | Заполле |
| 10 | Ястрэмбель | 42 | Размеркі |
| 11 | Блізная | 43 | Яглевічы |
| 12 | Сценявічы | 44 | Нехачава |
| 13 | Коўбавічы | 45 | Воля |
| 14 | Гута | 46 | Гічыцы |
| 15 | Уцёс | 47 | Плехаўшчына |
| 16 | Малыя Лукі | 48 | Сакалова |
| 17 | Альхоўцы | 49 | Хадакі |
| 18 | Юндзілы | 50 | Уласаўцы |
| 19 | Була | 51 | Козікі |
| 20 | Быцень | 52 | Бабровічы |
| 21 | Ямічна | 53 | Выганашчы |
| 22 | Мілавіды | 54 | Раздзялавічы |
| 23 | Востраў | 55 | Хатынічы |
| 24 | Крывошын | 56 | Корачын |
| 25 | Меляхі | 57 | Аброва |
| 26 | Гарадзішча | 58 | Святая Воля |
| 27 | Куршынавічы | 59 | Яловая |
| 28 | Машукі | 60 | Гутка |
| 29 | Старыя Буды | 61 | Рудня |
| 30 | Бусяж | 62 | Сакалоўка |

# АЛФАВІТНЫ СПІС ВЁСАК І СПІС ІНФАРМАТАРАЎ

| Назва населенага пункта | Раён | № на карце | Прозвішча, імя, імя па бацьку і год нараджэння інфарматара |
|---|---|---|---|
| Аброва | Івацэвіцкі | 57 | Равенка (Пупечыц) Марыя Рыгораўна, 1934 г.н.<br>Мічна (Лучыц) Соф'я Аляксандраўна, 1930 г.н. |
| Альхоўцы | Ляхавіцкі | 17 | Смаршчок Ніна Іванаўна, 1926 г.н.<br>Страмогуз Надзея Мікалаеўна, 1929 г.н. |
| Альшаніцы | Івацэвіцкі | 40 | Піцук (Бабей) Надзея Антонаўна, 1925 г.н.<br>Шчурская Марыя Мартынаўна, 1918 г. н.<br>Кучык Марыя Мікалаеўна, 1935 г.н. |
| Баброві́чы | Івацэвіцкі | 52 | Горбач Алена Данілаўна, 1937 г.н.<br>Горбач Надзея Мікалаеўна, 1924 г.н.<br>Дзячок Аляксандра Андронаўна, 1928 г.н.<br>Петруковіч Вольга Рыгораўна, 1927 г.н. |
| Блізная | Пружанскі | 11 | Шыла Марыя Антонаўна, 1925 г.н.<br>Дабрыянік Анастасія Якаўлеўна, 1924 г.н.<br>Клутко Алена Аляксандраўна, 1923 г.н. |
| Боркі | Ганцавіцкі | 39 | Жылінская Марыя Антонаўна, 1935 г.н.<br>Савасцюк Ядзвіга Іосіфаўна, 1933 г.н.<br>Грыцкевіч Таццяна Адамаўна, 1926 г.н. |
| Була | Івацэвіцкі | 19 | Аніш<br>чык Алена Іванаўна, 1936 г.н. |
| Бусяж | Івацэвіцкі | 30 | Шурко Ганна Андрэеўна, 1935 г.н.<br>Здзітавет (Дземідовіч) Сцефаніда Іванаўна, 1920 г.н. |
| Быцень | Івацэвіцкі | 20 | Макарэвіч Валянціна Канстанцінаўна, 1927 г.н.<br>Жышко Лізавета Іванаўна, 1914 г.н.<br>Маслоўская Вера Уладзіміраўна, 1921 г.н.<br>Серада Галіна Міхайлаўна, 1925 г.н. |
| Верчыцы | Пружанскі | 33 | Густыр Яўгенія Мікалаеўна, 1922 г.н.<br>Ярмасюк Марыя Рыгораўна, 1917 г.н.<br>Паўловіч Вера Міхайлаўна, 1927 г.н. |
| Воля | Івацэвіцкі | 45 | Кронда Ніна Пятроўна, 1925 г.н.<br>Кронда (Жыхар) Марыя Сямёнаўна, 1928 г.н.<br>Кронда Любоў Мікалаеўна, 1922 г.н. |
| Востраў | Ляхавіцкі | 23 | Русакевіч Марыя Андрэеўна, 1932 г.н.<br>Петрашэвіч Марыя Іванаўна, 1935 г.н. |
| Выганашчы | Івацэвіцкі | 53 | Кармановіч Марыя Несцераўна, 1921 г.н.<br>Лукашэвіч Антаніна Емяльянаўна, 1927 г.н. |
| Гарадзішча | Ляхавіцкі | 26 | Клімко Марыя Адамаўна, 1929 г.н.<br>Ходар (Бубеньчык) Марыя Адамаўна, 1927 г.н. |
| Гічыцы | Івацэвіцкі | 46 | Свяргун Алена Андрэеўна, 1936 г.н. |
| Гута | Баранавіцкі | 14 | Капусцінская Уладзіслава Аляксандраўна, 1920 г.н.<br>Коршак Станіслава Людзвігаўна, 1924 г.н. |
| Гутка | Івацэвіцкі | 60 | Дзегцярык (Галавач) Аляксандра Лазараўна, 1930 г.н. Шабацько Марыя Кузьмінічна, 1921 г.н. |

| Назва населенага пункта | Раён | № на карце | Прозвішча, імя, імя па бацьку і год нараджэння інфарматара |
|---|---|---|---|
| Дабромысль | Івацэвіцкі | 32 | Лаўрэнчык Аляксандра Сільвестраўна, 1928 г.н.<br>Якубальнік Алена Міхайлаўна, 1923 г.н. |
| Добрынева | Івацэвіцкі | 31 | Скіндзель (Горбач) Ніна Васілеўна, 1924 г.н.<br>Саленік (Дрозд) Надзея Іванаўна, 1927 г.н.<br>Журко (Горбач) Яўгенія Сцяпанаўна, 1923 г.н.<br>Грынчык (Грынчык) Вера Сцяпанаўна, 1929 г.н. |
| Жамайдзякі | Івацэвіцкі | 34 | Піскун (Радкевіч) Кацярына Васільеўна, 1927 г.н.<br>Пархута Ганна Уладзіміраўна, 1925 г.н. |
| Залессе | Слонімскі | 7 | Дарашэвіч Ганна Іванаўна, 1930 г.н.<br>Міхальчык Надзея Пракопаўна, 1926 г.н. |
| Заполле | Івацэвіцкі | 41 | Мігель (Ціток) Алена Антонаўна, 1921 г.н.<br>Станкевіч Вера Восіпаўна, 1933 г.н. |
| Каралін | Зэльвенскі | 3 | Макарэвіч Надзея Іванаўна, 1932 г.н.<br>Сапач Дар'я Сцяпанаўна, 1924 г.н.<br>Ушэйка Ніна Васілеўна, 1930 г.н.<br>Макарэвіч Надзея Данілаўна, 1929 г.н. |
| Козікі | Івацэвіцкі | 51 | Шырко Марыя Іванаўна, 1930 г.н.<br>Лішко Ганна Раманаўна, 1926 г.н.<br>Лішко Вольга Мікалаеўна, 1925 г.н.<br>Саевец (Краўчэня) Надзея Кірылаўна, 1929 г.н. |
| Корачын | Івацэвіцкі | 56 | Кузьменя Надзея Аляксандраўна, 1937 г.н.<br>Клютко Яўгенія Андрэеўна, 1925 г.н. |
| Коўбавічы | Баранавіцкі | 13 | Юрэня (Самсонік) Марыя Яўгенаўна, 1930 г.н.<br>Юрэня Аляксандра Паўлаўна, 1927 г.н.<br>Бартноўская Зінаіда Іванаўна, 1932 г.н. |
| Крывошын | Ляхавіцкі | 24 | Гатоўчыц Надзея Іванаўна, 1930 г.н.<br>Варвяшэвіч Лідзія Мікалаеўна, 1932 г.н.<br>Уласень Надзея Фамінічна, 1907 г.н. |
| Куршынавічы | Ляхавіцкі | 27 | Грачыха (Шпак) Соф'я Уладзіміраўна, 1936 г.н.<br>Матусевіч (Шпак) Марыя Іванаўна, 1932 г.н. |
| Лаўрынавічы | Баранавіцкі | 2 | Кунцэвіч (Борза) Марыя Мітрафанаўна, 1920 г.н.<br>Краўчэня (Сялява) Леаніла Іванаўна, 1930 г.н. |
| Магіліцы | Івацэвіцкі | 37 | Галушка Марыя Іванаўна, 1932 г.н.<br>Горбач Яўгенія Андрэеўна, 1920 г.н. |
| Малыя Лукі | Баранавіцкі | 16 | Бубен (Сушчэня) Марыя Уладзіміраўна, 1928 г.н.<br>Дурыло (Жыло) Аляксандра Сцяпанаўна, 1934 г.н.<br>Бадак (Сянько) Марыя Якімаўна, 1938 г.н.<br>Дрозд (Ананько) Юлія Сцяпанаўна, 1933 г.н. |
| Машукі | Клецкі | 28 | Есіс Яўгенія Паўлаўна, 1924 г.н. |
| Меляхі | Ляхавіцкі | 25 | Юруць Ганна Мікалаеўна, 1928 г.н.<br>Максімчык Надзея Максімаўна, 1932 г.н. |
| Мілавіды | Баранавіцкі | 22 | Карповіч Ядзвіга Браніславаўна, 1928 г.н.<br>Брычыкава Ніна Якімаўна, 1932 г.н.<br>Ваўчок Любоў Пятроўна, 1927 г.н. |
| Нехачава | Івацэвіцкі | 44 | Хацімка Ніна Аляксандраўна, 1932 г.н.<br>Майсевіч (Манекала) Алена Мікалаеўна, 1932 г.н. |

| Назва населенага пункта | Раён | № на карце | Прозвішча, імя, імя па бацьку і год нараджэння інфарматара |
|---|---|---|---|
| Падгорная | Баранавіцкі | 8 | Сотнік Алена Дзям'янаўна, 1929 г.н.<br>Лавуш Клаўдзія Аляксееўна, 1918 г.н. |
| Падстарынь | Івацэвіцкі | 36 | Букшта Алена Васілеўна, 1928 г.н.<br>Лапчук Ніна Барысаўна, 1931 г.н. |
| Паўлавічы | Зэльвенскі | 5 | Ксянжук (Саўчук) Ганна Міхайлаўна, 1928 г.н. |
| Плехаўшчына | Бярозаўскі | 47 | Цюшкевіч (Жэбрун) Надзея Іванаўна, 1931 г.н.<br>Сянкевіч (Сянкевіч) Любоў Гаўрылаўна, 1931 г.н. |
| Раздзялавічы | Ганцавіцкі | 54 | Рабцэвіч Соф'я Сямёнаўна, 1932 г.н.<br>Рабцэвіч Соф'я Фёдараўна, 1939 г.н. |
| Размеркі | Івацэвіцкі | 42 | Валошчык Ганна Андрэеўна, 1917 г.н.<br>Слесарчык Вера Мікалаеўна, 1934 г.н. |
| Рудня | Івацэвіцкі | 61 | Сцяшко Ганна Сямёнаўна, 1927 г.н.<br>Кулін (Ладыга) Марыя Паўлаўна, 1932 г.н.<br>Мохар (Домась) Соф'я Якаўлеўна, 1938 г.н. |
| Сакалова | Бярозаўскі | 48 | Цяўянская (Бык) Алена Васілеўна, 1936 г.н.<br>Шупенька Вера Міхайлаўна, 1926 г.н. |
| Сакалоўка | Пінскі | 62 | Баршчук Марыя Адамаўна, 1937 г.н.<br>Камяк (Доўбыж) Вольга Мікалаеўна, 1934 г.н.<br>Камяк (Козел) Праскоўя Адамаўна, 1920 г.н.<br>Доўбыш (Баршчук) Таццяна Сцяпанаўна, 1932 г.н. |
| Святая Воля | Івацэвіцкі | 58 | Куратнік Соф'я Майсееўна, 1925 г.н.<br>Краўчэня Кацярына Сцяпанаўна, 1927 г.н.<br>Каленік Ніна Мікалаеўна, 1934 г.н. |
| Свяціца | Ляхавіцкі | 38 | Буйкевіч Соф'я Яўгенаўна, 1940 г.н.<br>Грыцкевіч Таццяна Раманаўна, 1926 г.н.<br>Буйкевіч Зінаіда Мікалаеўна, 1934 г.н. |
| Селявічы | Слонімскі | 4 | Сяркевіч Юзэфа Паўлаўна, 1932 г.н.<br>Лукашэвіч Яніна Францаўна, 1924 г.н.<br>Засімовіч Алена Лук'янаўна, 1928 г.н. |
| Старажоўшчына | Івацэвіцкі | 35 | Гаўрусік (Паўловіч) Марыя Міхайлаўна, 1937 г.н.<br>Міхальчык Ніна Дзмітрыеўна, 1927 г.н. |
| Старыя Буды | Ляхавіцкі | 29 | Плакса (Чаранкевіч) Валянціна Пракопаўна, 1935 г.н.<br>Баркоўская Анастасія Мікалаеўна, 1928 г.н.<br>Матусевіч Яўгенія Іосіфаўна, 1939 г.н. |
| Сурынка | Слонімскі | 6 | Лысуха Марыя Іванаўна, 1925 г.н. |
| Сценявічы | Слонімскі | 12 | Міхальчык Марыя Іосіфаўна, 1937 г.н.<br>Мароз Надзея Іванаўна, 1930 г.н. |
| Тартакі | Баранавіцкі | 9 | Раманко Ядзвіга Сцяпанаўна, 1924 г.н.<br>Раманоўская Соф'я Іванаўна, 1919 г.н.<br>Козел (Жукоўская) Ядзвіга Юльянаўна, 1926 г.н. |
| Туркі | Баранавіцкі | 26 | Шадура (Шадура) Надзея Андрэеўна, 1930 г.н.<br>Голец (Пранчак) Вера Макараўна, 1928 г.н. |
| Уласаўцы | Івацэвіцкі | 50 | Уласавец Марыя Мацьвееўна, 1935 г.н. |
| Уласы | Баранавіцкі | 1 | Васіна (Грэбень) Таццяна Андрэеўна, 1929 г.н.<br>Левая Марыя Кандратаўна, 1942 г.н. |

| Назва населенага пункта | Раён | № на карце | Прозвішча, імя, імя па бацьку і год нараджэння інфарматара |
|---|---|---|---|
| Уцёс | Баранавіцкі | 15 | Рымша Надзея Іванаўна, 1920 г.н.<br>Гутырчык Вера Захараўна, 1932 г.н.<br>Данільчык Вольга Іванаўна, 1923 г.н. |
| Хадакі | Івацэвіцкі | 49 | Саявец (Рудзьман) Праскоўя Несцераўна, 1931 г.н.<br>Анісімава (Міраноўская) Надзея Пятроўна, 1928 г.н. |
| Хатынічы | Ганцавіцкі | 55 | Крупеніч Соф'я Уладзіміраўна, 1934 г.н. |
| Шылавічы | Слонімскі | 2а | Маркач (Ёрш) Соф'я Авакумаўна, 1930 г.н.<br>Шухно (Бандаровіч) Ганна Іванаўна, 1936 г.н. |
| Юндзілы | Пружанскі | 18 | Якуцэня Любоў Антонаўна, 1929 г.н.<br>Густыр (Капля) Алена Аляксееўна, 1935 г.н.<br>Нячай (Кандратовіч) Марыя Антонаўна, 1925 г.н. |
| Яглевічы | Івацэвіцкі | 43 | Міхінкевіч Надзея Аляксееўна, 1930 г.н. |
| Яловая | Ганцавіцкі | 59 | Крысюк Вольга Іванаўна, 1922 г.н.<br>Кісялевіч Вольга Іванаўна, 1931 г.н.<br>Крупеніч Марыя Іванаўна, 1922 г.н. |
| Ямічна | Баранавіцкі | 21 | Русак Галіна Адамаўна, 1937 г.н.<br>Альхоўская Клаўдзія Пятроўна, 1934 г.н. |
| Ястрэмбель | Баранавіцкі | 10 | Бабко Алена Уладзіміраўна, 1931 г.н.<br>Фурс (Кабушка) Марыя Міхайлаўна, 1936 г.н.<br>Савасценчык Вольга Якімаўна, 1926 г.н. |

## ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

адз. лік – адзіночны лік
буд. час – будучы час
в. (вв.) – вёска (вёскі)
В. склон – вінавальны склон
Д. склон – давальны склон
ж. род – жаночы род
заг. лад – загадны лад
м. род – мужчынскі род
М. склон – месны склон
мн. лік – множны лік
н. род – ніякі род
Н. склон – назоўны склон
прош. час – прошлы час
Р. склон – родны склон
с. – старонка
ст. (стст.) – стагоддзе (стагоддзі)
Т. склон – творны склон
цяп. час – цяперашні час

## АПЫТАЛЬНІК ДЛЯ ЗБОРУ МАТЭРЫЯЛУ

## ФАНЕТЫКА

### Вакалізм

### Націскныя галосныя

#### *Фанема [а]*

**1.** Як вымаўляецца гук [а] у сярэдзіне слоў:
*пра́ўда, каза́ў, бра́ў, даў, узяў; пра́ўда, казо́ў, броў, доў.*

**2.** Як вымаўляецца гук [а] у сярэдзіне слова:
*скна́ра; скне́ра…*

**3.** Які гук вымаўляецца замест націскнога [а] пасля шыпячых у 3-й асобе дзеясловаў адз. ліку:
*крыча́ла, дрыжа́ла, маўча́ла; крычэ́ла, моўчэ́ла, дрыжэ́ла…*

#### *Фанема [о]*

**4.** Які гук вымаўляецца на месцы этымалагічнага [о] у закрытых складах:
*боб, бок, больш, по́йдзеш, мой, воз, вол, йон, нож, ноч, стол, паро́г, конь, каро́ўка, кот, то́лькі, жо́нка; бôб, бôк, бôльш, пốйдзеш, мôй, вôз, вôл, нôж, нôч, стôл, парốг, кôнь, карốўка, кôт, тốлькі, жốнка; бэб, бэк, бэльш, пэ́йдзеш, мэй, вэз, вэл, вэн, нэч, стэл, порэ́г, кэнь, корэ́ўка, кэт, тэ́лькі, жэ́нка; быб, бык, бы́льш, пыйдзеш, мый, выз, выл, вын, ныж, ныч, стыл, порыг, кынь, корыўка, кыт, тылькі, жынка; біб, бік, більш, пійдэш, мій, віз, віл, він, дім, ніс, ніж, ніч, стіл, паріг, кінь, каріўка, кіт, тількі, жінка, гіркі...*

**5.** Які гук вымаўляецца на месцы этымалагічнага [о] у закрытых складах пасля губных у слове *мёд*:
*мёд; мйод; мед; мэд…*

**6.** Які гук вымаўляецца на месцы этымалагічнага [о] у закрытых складах пасля губных у словах *мёрзлы, цвёрды*:
*мё́рзлы, цвё́рды; ме́рзлы, цве́рды…*

**7.** Які гук вымаўляецца на месцы этымалагічнага [о] у закрытых складах пасля губных у слове *авёс*:
*авё́с; авйо́с; овйо́с; аўйо́с; аве́с; ове́с...*

**8.** Які гук вымаўляецца на месцы этымалагічнага [о] у закрытых складах пасля губных у слове *бёрда*:
*бё́рдо; бйо́рдо; бе́рдо; бэ́рдо…*

**9.** Які гук вымаўляецца на месцы этымалагічнага [о] сярэдзіне слова пасля мяккіх (у адкрытых складах) у слове *далёка*:
*далё́ко; дале́ко...*

#### *Фанема [э]*

**10.** Які гук вымаўляецца на месцы этымалагічнага [е] перад цвёрдымі зычнымі:
*снег, се́но, лес, хлеб, век, дзед, сме́лы, це́сто, це́сны, ме́ра, па́бег, чалаве́к; снêг, сếно, лêс, хлêб, вêк, дзêд, смếлы, цếсто, цếсны, мếра, пабếг, чалавếк; сніг, сіно, ліс, хліб, вік, дід, смілы, тісто, тісно, міра, побіг, чоловік...*

#### *Пераход [э] ў [о]*

**11.** Які галосны – [э] ці [о] – вымаўляецца пад націскам у каранях слоў перад шыпячымі ў слове *адзёжа*:
*адзё́жа; адзе́жа…*

#### *Фанема [ы]*

**12.** Які гук вымаўляецца замест гука [ы] пад націскам у сярэдзіне слова:
*пыл, бык, мы, вы, высо́кі, кабы́лка; пыта́ць, адмыка́ць, выбіва́ць; піл, кобілка, бік, мі, ві, вісо́кі; піта́ці, одміка́ці, вібіва́ці…*

**13.** Які гук вымаўляецца замест гука [ы] пад націскам у сярэдзіне слоў *быў, была*:
*быў, была́; буў, була́…*

### *Фанема [і]*

**14.** Які гук вымаўляецца замест [і] пад націскам у сярэдзіне слова пасля мяккіх зычных:
*зацірка, павуцінне; зацёрка, павуцённе...*

## Ненаціскныя галосныя

### *Гук [а]*

**15.** Які гук вымаўляецца на месцы [а] у 1-м складзе перад націскам пасля цвёрдых зычных (гіпер-оканне):
*давай, знайшла; довай, знойшла...*

**16.** Які гук вымаўляецца на месцы [а] у 1-м складзе перад націскам пасля фанемы [п]:
*пята, пятак; пйата, пйатак; пйета, пйетак, пэта, пэтак...*

**17.** Які гук вымаўляецца на месцы [а] у 1-м складзе пасля націску:
*заяц, пояс; заяц, поес...*

### *Гук [э]*

**18.** Які галосны гук вымаўляецца ў 1-м складзе перад націскам на месцы этымалагічнага [э] перад цвёрдым зычным (з ѣ):
*бяда, сцяна, сяўба, зямля, сяло, вядро, гняздо; бэда, стэна, сэўба, зэмля, сэло, вэдро, гнэздо; біда, сціна, сіўба, зімля, сіло, відро, гніздо; беда, сцена, сеўба, земля, село, ведро, гнездо...*

**19.** Які галосны гук вымаўляецца ў 1-м складзе перад націскам на месцы этымалагічнага [э] перад цвёрдым зычным:
*няма, ня знаю, няхай, ня буду; нема, не знаю, нехай, не буду; нэма, нэ знаю, нэхай, нэ буду; німа, ні знаю, ніхай, ні буду...*

**20.** Які галосны гук вымаўляецца ў 1-м складзе перад націскам на месцы этымалагічнага [э] пасля шыпячых:
*пчала, жанаты, шчака; пчола, жонаты, шчока; пчэла, жэнаты, шчэка...*

**21.** Які галосны гук вымаўляецца ў 2-м і 3-м складах перад націскам на месцы этымалагічнага [э]:
*леснікі, верацёна, верацяно; ляснікі, вярацёна, вярацяно...*

**22.** Які галосны гук вымаўляецца ў паслянаціскных складах на месцы этымалагічнага [э] перад мяккімі зычнымі:
*возеро; восень; возяро, восянь...*

**23.** Які галосны гук вымаўляецца ў канцавым закрытым складзе на месцы этымалагічнага [э]:
*восем; восім...*

**24.** Які галосны гук вымаўляецца ў канцавым адкрытым складзе на месцы этымалагічнага [э] пасля цвёрдых зычных:
*морэ, горэ, сэрцэ; моро, горо, сэрцо...*

### *Гук [о]*

**25.** Які галосны гук вымаўляецца ў 1-м складзе перад націскам на месцы этымалагічнага [о] пасля цвёрдых зычных:
*мароз, карова; галава, малако; мороз, корова; голова, молоко...*

**26.** Які галосны гук вымаўляецца ў 1-м складзе перад націскам на месцы этымалагічнага [о] пасля цвёрдых зычных у прыназоўніку-прыстаўцы *пад, пад-*:
*пад нагамі, пад вачамі; паднябенне, падкарміць; под ногамі, под вочамі; поднебенне, подкорміці; пуд ногамі, пуд вочамі; пуднебенне, пудкорміці; під ногамі, під вочамі; підкорміці, піднебенне...*

### *Гук [у]*

**27.** Які галосны гук вымаўляецца ў ненаціскных складах замест гука [у] у 1-м складзе перад націскам:
*субота; сыбота...*

## Кансанантызм

### *Фанемы [ш], [ч]*

**28.** Як утвараюцца **асновы асабовых формаў** ад дзеясловаў на *с*, *т*:
*нашу́, прашу́, заплачу́; носю́, просю́, заплатю́...*

### *Фанема [дж]*

**29.** Як утвараюцца **асновы асабовых формаў** ад дзеясловаў на *д*:
*хаджу́, гляджу́; ходзю́, гледзю́; ходю́, гледю́; хажу́, гляжу́...*

**30.** Як вымаўляецца афрыката [дж] у пачатку і сярэдзіне слова:
*дро́жджы, джа́ло; ураджа́й, саджа́ць; дро́жжы, жа́ло; уража́й, сажа́ць...*

### *Фанема [ф]*

**31.** Як вымаўляецца гук [ф] перад [а] у слове *фарба*:
*фа́рба; хва́рба...*

**32.** Як вымаўляецца гук [ф] перад [у] у слове *фунт*:
*фунт; хунт...*

**33.** Як вымаўляецца гук [ф] перад [у] у слове *фундамент*:
*фунда́мент; хунда́мент...*

**34.** Ці вымаўляецца гук [ф] у слове *фасоль*:
*пасо́ля; фасо́ля; хвасо́ля...*

**35.** Ці вымаўляецца гук [ф] у слове *карто́фля*:
*карто́пля; карто́фля...*

### *Фанема [х]*

**36.** Які **гук** вымаўляецца ў пачатку слова *хутар*:
*ху́тар; фу́тар...*

**37.** Які **гук** вымаўляецца ў пачатку слова *хуліган*:
*хуліга́н; фуліга́н...*

### *Фанемы [г], [к], [х]*

**38.** Які гук вымаўляецца перад фанемай [і] у канцавым адкрытым складзе:
*сухі́, гарадскі́, тугі́; сухі́й, городскі́й, тугі́й; сухы́й, городскы́й, тугы́й...*

### *Фанемы [г], [g]*

**39.** Як вымаўляецца гук [г]? Як заднеязычны працяглы (фрыкатыўны) гук, як гартанны гук ці як заднеязычны выбухны гук [g] перад галоснымі ў пачатку слова *газета*:
*газе́та; gaзе́та...*

**40.** Як вымаўляецца гук [g]? Як заднеязычны працяглы (фрыкатыўны) гук, як гартанны гук ці як заднеязычны выбухны гук [g] перад галоснымі ў пачатку слова *gузік*:
*gу́зік; гу́зік...*

### *Фанемы [г], [в]*

**41.** Які **пры́стаўны гук** вымаўляецца ў пачатку слоў *востры*, *вастрыць*:
*во́стры, вастры́ць; го́стры, гастры́ць...*

**42.** Які **пры́стаўны гук** вымаўляецца ў пачатку слова *вока*:
*во́ко; о́ко; го́ко...*

**43.** Які **пры́стаўны гук** вымаўляецца ў пачатку слова *араць*:
*ара́ць; гара́ць...*

**44.** Які **пры́стаўны гук** вымаўляецца ў пачатку слова *ануча*:
*ану́ча; гану́ча...*

**45.** Які **прыстаўны гук** вымаўляецца ў пачатку слова *вуліца*:
*ву́ліца; гу́ліца; у́ліца...*

**46.** Які **прыстаўны гук** вымаўляецца ў пачатку слова *восень*:
*во́сень; о́сень; го́сянь...*

**47.** Які **прыстаўны гук** вымаўляецца ў пачатку слова *возера*:
*во́зеро; о́зеро...*

**48.** Які **прыстаўны гук** вымаўляецца ў пачатку слова *арэх*:
*арэ́х; гарэ́х...*

**49.** Які **прыстаўны гук** вымаўляецца ў пачатку слова *вуха*:
*ву́хо; у́хо...*

**50.** Які **прыстаўны гук** вымаўляецца ў пачатку слоў *ён, яна, яно, яны*:
*ён (йон); вон...*

**51.** Які **прыстаўны гук** вымаўляецца ў сярэдзіне слова перад націскным [у]:
*паву́к, наву́ка; пау́к, нау́ка...*

***Фанемы [ў], [w]***

**52.** Які гук вымаўляецца на месцы этымалагічных зычных [в], [л]:
*по́ўны, жо́ўты, то́ўсты; ла́ўка, тра́ўка; воўк, знаў, каза́ў, піў; по́wны, жо́wты, то́wсты; ла́wка, тра́wка; воwк, знаў, каза́w, піw...*

***Фанемы [л], [ў]***

**53.** Які гук вымаўляецца на месцы этымалагічнага гука [л] у слове *сажалка*:
*са́жалка; са́жаўка...*

***Фанемы [н], [л]***

**54.** Які гук вымаўляецца на месцы гука [н’] перад [і]:
*ніткі, нізко; ны́ткі, ны́зко...*

**55.** Які гук вымаўляецца на месцы гука [н’] перад [э]:
*не́хто, не́бо; нэ́хто, нэ́бо...*

**56.** Які гук вымаўляецца на месцы гука [л’] перад [э]:
*по́ле; по́лэ...*

***Фанемы [з], [с]***

**57.** Які гук вымаўляецца на месцы гукаў [з’], [с’] перад [і] у пачатку слова:
*зіма́, сіла; зыма́, сы́ла...*

**58.** Які гук вымаўляецца на месцы гукаў [з’], [с’] перад [э] у пачатку слова:
*зе́рне, село́; зэ́рне, сэло́...*

***Фанемы [б’], [п’], [м’], [в’]***

**59.** Як вымаўляюцца ў гаворцы мяккія губныя зычныя [п’], [в’] перад фанемай [а]:
*пяць, вя́жэ; пйа́ць, вйа́жэ...*

**60.** Як вымаўляецца губны зычны [м’] перад [ę]:
*мя́со, мя́та; мйа́со, мйа́та; мня́со, мня́та...*

**61.** Як вымаўляюцца губныя зычныя [б’], [п’], [м’], [в’] перад [е]:
*пе́ршы, ме́ншы; бе́раг, ве́чар; бэ́рог, пэ́ршы, мэ́ншы, вэ́чор...*

***Спалучэнне зычных фанем***

**62.** Які **гук** вымаўляецца ў спалучэнні [чн]:
*ручні́к; рушні́к...*

**63.** Які **гук** вымаўляецца ў спалучэнні [чн]:
*сма́чно; сма́шно...*

**64.** Які **гук** вымаўляецца ў спалучэнні [чн]:
*кане́чне; кане́шне...*

**65.** Ці падвойваюцца зычныя (акрамя заднеязычных) перад [j] паміж галоснымі (на месцы старажытнага спалучэння "мяккі зычны" + *j* ):

*[суд'дз'á, га'л'л'ó, калóс'с'е, Пал'éс'с'е, в'асéл'л'е]*; *[судз'já, гал'jó, в'ас'éл'jo, калóс'je, Пал'éс'je, в'асéл'je]*; *[судз'а, гал'ó, в'ас'éл'о, калóс'е, Палéс'е]*...

**66.** Замест спалучэння [дн] ці не вымаўляюцца ў гаворцы падвойныя зычныя [нн] (поўная рэгрэсіўная асіміляцыя) у слове *трудно*:

*трýдно; трýнно*...

**67.** Замест спалучэння [дн] ці не вымаўляюцца ў гаворцы падвойныя зычныя [нн] (поўная рэгрэсіўная асіміляцыя) у слове *галодны*:

*галóдны; галóнны*...

**68.** Замест спалучэння [дн] ці не вымаўляюцца ў гаворцы падвойныя зычныя [нн] (поўная рэгрэсіўная асіміляцыя) у словах *халодны, родны*:

*рóдны; халóдны; рóнны; халóнны*...

**69.** Наяўнасць у гаворцы асіміляцыйнай мяккасці:

*сьвет, сьнег, сьлед, зьняў, зьвер; свет, снег, след, зняў, звер*...

**70.** Ці адбываецца аглушэнне звонкіх зычных (няпоўная рэгрэсіўная асіміляцыя па глухасці) у сярэдзіне слова:

*кáска, загáтка, нóшка, бáпка, сусéтка, клáтка, сцéшка, бліско; кáзка, загáдка, нóжка, бáбка, сусéдка, клáдка, сцéжка, блізко*...

**71.** Ці адбываецца аглушэнне звонкіх зычных (няпоўная рэгрэсіўная асіміляцыя па глухасці) у канцы слоў:

*дуп, вос, нош, сат, плух, лух, стох; дуб, воз, нож, сад, плуг, луг, стог*...

**72.** Ці адбываецца азванчэнне глухіх зычных (рэгрэсіўная асіміляцыя па звонкасці) перад галоснымі:

*сýтачкі; сýдачкі*...

**73.** Ці адбываецца азванчэнне глухіх зычных (рэгрэсіўная асіміляцыя па звонкасці) у запазычаннях:

*сачавіца; соцэвіца*...

**74.** Ці адбываецца азванчэнне глухіх зычных (рэгрэсіўная асіміляцыя па звонкасці) у запазычаннях:

*жалéзо; залéзо*...

**75.** Ці адбываецца азванчэнне глухіх зычных (рэгрэсіўная асіміляцыя па звонкасці) у запазычаннях:

*пінцылін; піліцылін*...

**76.** Ці прысутнічае ў гаворцы дысіміляцыя (распадабненне двух аднолькавых у якіх-небудзь адносінах гукаў) у слове *трáктар*:

*трáктар; трáхтар*...

**77.** Ці прысутнічае ў гаворцы дысіміляцыя (распадабненне двух аднолькавых у якіх-небудзь адносінах гукаў) у слове *доктар*:

*дóктар; дóхтар*...

**78.** Ці прысутнічае ў гаворцы метатэза (перастаноўка гукаў ці складоў у слове):

*нагавіцы; ганавіцы*...

**79.** Ці прысутнічае ў гаворцы эпентэза (узнікненне ў слове гука, які адсутнічаў у першапачатковай форме гэтага слова):

*трэ́ці; трэ́йці*...

**80.** Ці прысутнічае ў гаворцы эпентэза (узнікненне ў слове гука, які адсутнічаў у першапачатковай форме гэтага слова):

*рóбяць, спяць, кóрмяць; рóбйаць, спйáць, кóрмйаць; рóбляць, спляць, кóрмляць*...

### *Дзеканне і цеканне*

**81.** Як вымаўляюцца этымалагічна мяккія [д’] і [т’] перад [і]:
*ціхо, ціна, дзікі; тіхо, тіна, ходіла, дікі; тыхо, тына, ходыла, дыкі...*

**82.** Як вымаўляюцца этымалагічна мяккія [д’] і [т’] перад [е]:
*дзень, дзе́сяць, мясце́чко; день, де́сеть, месте́чко; дэнь, дэ́сэть, мэстэ́чко...*

**83.** Як вымаўляюцца этымалагічна мяккія [д’] і [т’] перад ѣ:
*дзед, дзе́жка, дзе́ўка; це́сто, це́сно, це́ло; дед, де́жка, де́шка; те́сто, те́сно, те́ло; дід, ді́жка, ді́шка; ті́сто, ті́сно, ті́ло...*

**84.** Як вымаўляецца этымалагічны гук [т] у канцы слова:
*ко́рмяць, ро́бяць, чыта́юць, жыву́ць; ко́рмять, ро́бять, чыта́ють, жыву́ть; ко́рмят, ро́бят, чыта́ют, жыву́т...*

### *Наяўнасць/адсутнасць прыстаўных і пачатковых гукаў*

**85.** Якая форма слова ўжываецца:
*льну́; льна́; лну; лна; лёну; ілну́; ільну́...*

**86.** Якая форма слова ужываецца:
*ржаны́; аржаны́; іржаны́...*

**87.** Ці прысутнічае ў гаворцы з’ява адпадзення пачатковага гука [г] і [в] у слове *вазьму*:
*вазьму́; азьму́...*

**88.** Ці прысутнічае ў гаворцы з’ява адпадзення пачатковага гука [г] і [в] у слове *гектар*:
*гекта́р; акта́р...*

### *Мяккасць/цвёрдасць [л]*

**89.** Мякка ці цвёрда вымаўляецца гук [л] у спалучэнні *-льц-* у словах *крыльцы*, *відэльцы*:
*кры́льцы, відэ́льцы; кры́лцы, відэ́лцы...*

**90.** Мякка ці цвёрда вымаўляецца гук [л] у спалучэнні *-льн-* у слове *пільнаваць*:
*пільнава́ць; пілнава́ць...*

## МАРФАЛОГІЯ

## Назоўнік

### *Назоўнікі адзіночнага ліку*

**91.** Як утвараюцца формы Д. і М. склонаў назоўнікаў адз. ліку ж. роду на *-а* з асновай на заднеязычны пад націскам:
*к дузе́, к назе́, аб сасе́; у руцэ́, к дачцэ́, у муцэ́; к дуге́, к наге́, аб сахе́; у руке́, к дачке́, у муке́...*

**92.** Як утвараюцца формы Д. і М. склонаў назоўнікаў адз. ліку ж. роду на *-а* з асновай на заднеязычны не пад націскам:
*на даро́зе, на ла́ўцы, у за́гарадцы, аб му́се; на даро́зі, на ла́ўцы, у за́гарадцы, даць му́сі; на доро́зы, на ла́ўцы, у за́городцы, даць му́сы; на даро́ге, на ла́ўке, у за́гарадке, аб му́хе; на даро́гі, на ла́ўкі, у за́гарадкі, му́хі; на доро́гі, на ла́ўкі, у за́городкі, му́хі...*

**93.** Як утвараюцца формы Д. і М. склонаў назоўнікаў адз. ліку ж. роду на *-а* з іншай асновай не пад націскам:
*на ла́ве, к каро́ве, на бяро́зе, у ха́це, на рабо́це; на ла́ві, к каро́ві, на бяро́зі, у ха́ці, на рабо́ці; на ла́вы, к коро́вы, на бэро́зы, у ха́ты, на робо́ты...*

**94.** Як утвараюцца формы Д. і М. склонаў назоўнікаў адз. ліку ж. роду на *-а* пры аснове на зацвярдзелы зычны пад націскам:
*на шашы́, на мяжы́, на гары́; на шашэ́, на мяжэ́, на гарэ́...*

**95.** Як утвараюцца формы Д. і М. склонаў назоўнікаў адз. ліку ж. роду на *-а* пры аснове на мяккі зычны пад націскам:
*к радні́, на зямлі́, у сям’і́; к радне́, на зямле́, у сям’е́...*

**96.** Якія канчаткі маюць у Т. склоне адз. ліку назоўнікі ж. роду на *-а (-я)* пры аснове на цвёрды зычны пад націскам:
*вадóю, галавóю, пілóю, лазóю; вадóй, галавóй, пілóй, лазóй...*

**97.** Якія канчаткі маюць у Т. склоне адз. ліку назоўнікі ж. роду на *-а (-я)* пры аснове на цвёрды зычны не пад націскам:
*за карóваю, за хáтаю, з рабóтаю, пад лáваю; за карóвай, за хáтай, з рабóтай, пад лáвай...*

**98.** Якія канчаткі маюць у Т. склоне адз. ліку назоўнікі ж. роду на *-а (-я)* пры аснове на мяккі зычны пад націскам:
*зямлёю, раднёю, гульнёю, сям'ёю; зямлёй, раднёй, гульнёй, сям'ёй...*

**99.** Якія канчаткі маюць у Т. склоне адз. ліку назоўнікі ж. роду на *-а (-я)* пры аснове на мяккі зычны не пад націскам:
*пад лáзняю, пад вíшняю, за я́блыняю; под лáзнёю, под вíшнёю, за я́блынёю; пад лáзняй, пад вíшняй, за я́блыняй; под лáзней, под вíшней, за я́блыней; под лáзнёй, под вíшнёй, за я́блынёй...*

**100.** Якія канчаткі маюць назоўнікі м. роду ў М. склоне адз. ліку:
*на фрóнце, у калхóзе, на парóзе; на фрóнці, у калхóзі, на парóзі; на фрóнты, у колхóзы, на порóзы...*

**101.** Якія канчаткі маюць назоўнікі м. роду ў М. склоне адз. ліку:
*на лу́зе; на лу́зі; на лугу́; на лу́гові...*

**102.** Якія канчаткі маюць назоўнікі м. роду ў М. склоне адз. ліку:
*у лéсе, у дóме, на вóзе, на агарóдзе; у лéсі, у дóмі, на вóзі, на агарóдзі; у лесу́, у дому́, на возу́, на агарóду...*

**103.** Якія канчаткі маюць назоўнікі м. роду ў М. склоне адз. ліку:
*у сáдзе, на ду́бе; у сáдзі, у дóмі, на ду́бі; у саду́, у дому́, на дубу́...*

**104.** Якія канчаткі маюць назоўнікі м. роду ў М. склоне адз. ліку:
*на нажы́, на ключы́, у канцы́; на нажэ́, на ключэ́, у канцэ́; на нажу́, на ключу́, у канцу́...*

**105.** Якія канчаткі маюць назоўнікі м. роду ў М. склоне адз. ліку:
*на трáктары, аб загáры; на трáктарэ, аб загáрэ; на трáктару, аб загáру...*

**106.** Якія канчаткі маюць назоўнікі м. роду ў М. склоне адз. ліку:
*на пні́, на плятні́; на пнé, на плятнé; на пню́, на плятню́...*

**107.** Якія канчаткі маюць назоўнікі м. роду ў М. склоне адз. ліку:
*на кáмені, у вéрасні; на кáмене, у вéрасне; на кáменю, у вéрасню...*

**108.** Якія канчаткі маюць адушаўлёныя назоўнікі м. роду ў Д і М. склонах адз. ліку:
*брáту, сы́ну; пры брáце, аб сы́не; (пры) брáтові, об сы́нові...*

**109.** Якія канчаткі маюць назоўнікі н. роду ў М. склоне адз. ліку:
*у мясцéчку, у гняздзéчку; у месцéчке, у гняздзéчке...*

**110.** Якія канчаткі маюць назоўнікі н. роду ў М. склоне адз. ліку:
*на плячы́, у вядры́; на плячэ́, у вядрэ́; на плячу́, у вядру́...*

**111.** Якія канчаткі маюць назоўнікі н. роду ў М. склоне адз. ліку:
*аб гóры, на мóры; аб гóрэ, на мóрэ; аб гóру, на мóру...*

**112.** Якія канчаткі маюць назоўнікі ж. роду ў Т. склоне адз. ліку:
*мы́шшу; мы́шом; мы́шаю; мы́шэй; мышэ́ю; мішэ́ю; мышóю...*

**113.** Якія канчаткі маюць назоўнікі м. роду ў Т. склоне адз. ліку:
*канём, рублём, трáктарам, фéльчарам, таўкачóм, урачóм; конéм, рублéм, трáкторэм, фéльчэрэм, тоўкачэ́м, урачэ́м...*

**114.** Якія існуюць канструкцыі:
*ісці па вóду; ісці за вадóй...*

**115.** Якія існуюць канструкцыі:
*ехаць на кані; ехаць на каню́; ехаць канём...*

**116.** Якія існуюць канструкцыі:
*ісці па грыбы; ў грыбы; ісці за грыба́мі...*

**117.** Якія існуюць канструкцыі:
*ісці па дро́вы; ісці за дро́вамі...*

**118.** Якія канчаткі маюць назоўнікі, што абазначаюць назвы маладых істот, у форме Р. склону:
*цяля́ці, ягня́ці, кураня́ці; целёнка, егнёнка, куро́нка; тэля́ты, егня́ты, курэня́ты; тэля́та, егня́та, курэня́та...*

**119.** Якія канчаткі маюць назоўнікі, што абазначаюць назвы маладых істот, у форме Т. склону:
*це́лем, я́гнем, курэ́нем; з цялём, ягнём, куранём; з цялёнкам, ягнёнкам, куранёнкам; тэля́том, егня́том, курэня́том; з цяля́цем, ягня́цем, кураня́цем...*

**120.** Якія канчаткі маюць назоўнікі, што абазначаюць назвы маладых істот, у форме Д. і М. склонаў:
*(аб) цяля́ці, ягня́ці, кураня́ці; (об) целёнку, егнёнку, курэнёнку; (об) тэля́ты, егня́ты, курэня́ты; (об) тэля́ту, егня́ту, курэня́ту...*

***Назоўнікі множнага ліку***

**121.** Якія канчаткі маюць назоўнікі м. роду мн. ліку з цвёрдай асновай ў Н. склоне пад націскам:
*сталы́, грыбы́; сталэ́, грыбэ́...*

**122.** Якія канчаткі маюць назоўнікі м. роду мн. ліку з мяккай і зацвярдзелай асновай ў Н. склоне пад націскам:
*кавалі́, пні́, нажы́, ключы́; кавале́, пне́, нажэ́, ключэ́...*

**123.** Якія канчаткі маюць назоўнікі м. роду мн. ліку ў Р. склоне пад націскам:
*індыко́ў, камяко́ў; індыкэ́w, комекэ́w; індыкэ́й, комекэ́й...*

**124.** Якія канчаткі маюць назоўнікі ж. роду мн. ліку ў Р. склоне не пад націскам:
*хат, сцен; ха́таў, сцэ́наў; хато́ў, сцяно́ў; хатэ́й, сцянэ́й...*

**125.** Якія канчаткі маюць назоўнікі м. роду мн. ліку ў Д. склоне пад націскам:
*бацька́м, брата́м, пастуха́м; бацько́м, брато́м, пастухо́м...*

**126.** Якія канчаткі маюць назоўнікі ўсіх родаў мн. ліку ў М. склоне:
*ляса́х, паля́х, луга́х; лясо́х, палёх, луго́х...*

**127.** Ці прысутнічаюць у гаворцы рэшткі парнага ліку:
*плеча́мі, вача́мі, дзвяра́мі; плячы́ма, вачы́ма, дзвяры́ма...*

## Прыметнік

**128.** Якія канчаткі маюць прыметнікі ж. роду адз. ліку ў Н. склоне:
*малада́я, стара́я; малада́, стара́...*

**129.** Якія канчаткі маюць прыметнікі ж. роду адз. ліку ў Н. склоне:
*но́вая, до́брая; но́ва, до́бра...*

**130.** Якія канчаткі маюць прыметнікі м. роду адз. ліку ў Н. склоне:
*сухі́, гарадскі́, тугі́; сухі́й, городскі́й, тугі́й...*

**131.** Якія канчаткі маюць прыметнікі н. роду адз. ліку ў Н. склоне:
*старо́е, маладо́е; старэ́е, маладэ́е; старэ́, молодэ́...*

**132.** Якія канчаткі маюць прыметнікі м. роду адз. ліку ў М. склоне:
*у густо́м лесі, аб маладо́м хлапцу; у густо́му лесі, аб маладо́му хлапцу; у густэ́м лесі, об молодэ́м хлопцу; у густы́м лесе, аб маланы́м хлапцу...*

**133.** Якія канчаткі маюць прыметнікі м. роду адз. ліку ў М. склоне:
*(у) нóвам, бéлам, чырвóнам; (у) нóваму, бéламу, чырвóнаму; (у) нóвум, бéлум, чырвóнум; (у) нóвым, бéлым, чырвóным...*

**134.** Якія канчаткі маюць прыметнікі ж. роду адз. ліку ў Р. склоне:
*маладóе, нóвае; маладóй, нóвай; молодэ́е, нóвэе; молодэ́й, нóвэй...*

**135.** Якія канчаткі маюць прыметнікі ж. роду адз. ліку ў М. склоне:
*(у) нóвай, бéлай, чырвóнай; (у) нóвуй, бéлуй, чырвóнуй; (у) нóвэй, бéлэй, чырвóнэй; (у) нóвый, бíлый, чырвóный...*

**136.** Якія канчаткі маюць прыметнікі ж. роду адз. ліку ў Т. склоне:
*з маладóй; з маладóю...*

### Дзеепрыметнік

**137.** Якую форму мае дзеепрыметнік *згорнуты*:
*згóрнуты; згóрнены...*

### Займеннік

**138.** Якія ёсць формы Н. склону адз. ліку займенніка *той*:
*той; таé; тóе; тэ́е; тый...*

**139.** Як утвараюцца формы Т. склону адз. ліку ад займенніка *тая*:
*за той (хатай); за тóю; за таéю; за тэй...*

**140.** Як утвараюцца формы Р. склону адз. ліку займеннікаў *мой, твой, свой*:
*майгó, твайгó, свайгó; магó, твагó, свагó...*

**141.** Як утвараюцца формы Р. склону адз. ліку займеннікаў:
*да маé сястры, да тваé, да сваé; да маё́й сястры, да тваё́й, да сваё́й; да маéй сястры, да тваéй, да сваéй; до моéй сестры, до твоéй, до своéй; до моéе сэстры́, до твоéе, до своéе...*

**142.** Як утвараюцца формы Т. склону адз. ліку займеннікаў:
*з маё́ю, з тваё́ю, з сваё́ю мамаю; з маё́й, з тваё́й, з сваё́й мамай; з маéю, з тваéю, з сваéю мамаю; з моéю, з твоéю, з своéю мамою; з моéй, з твоéй, з своéй мамой...*

**143.** Як утвараюцца формы Н. склону адз. ліку займеннікаў *наша, ваша*:
*нáша хата, вáша; нáшая хата, вáшая...*

**144.** Як утвараюцца формы Н. склону мн. ліку займеннікаў:
*нáшы хаты, вáшы; нáшыя хаты, вáшыя...*

### Лічэбнік

**145.** Якія склонавыя формы маюць лічэбнікі ў Р., М. і Д. склонах:
*двух, двум; двох, двом...*

**146.** Якія склонавыя формы маюць лічэбнікі ў Т. склоне:
*двумá; двомá; двымá...*

**147.** Якія склонавыя формы маюць колькасныя лічэбнікі, пачынаючы з пяці, у Р. і М. склонах:
*пяці, шасці, пятнáццаці; пяцё́х, шасцё́х, пятнáццацёх...*

**148.** Якія склонавыя формы маюць колькасныя лічэбнікі, пачынаючы з пяці, у Д. склоне:
*пяці, шасці, пятнáццаці; пяцё́м, шасцё́м, пятнáццацём...*

**149.** Якія склонавыя формы маюць колькасныя лічэбнікі, пачынаючы з пяці, у Т. склоне:
*пяцьйý, шасцьйý, пятнáццацьйу; пяцьмí, шасцьмí, пятнáццацьмі; пяцьмá, шасцьмá, пятнáццацьма...*

### Дзеяслоў

**150.** Якія **канчаткі** маюць дзеясловы I спражэння цяп. часу ў форме 1-й асобы мн. ліку пад націскам:
*ідзéм, жывéм, вядзéм; ідзё́м, жывё́м, вядзё́м; ідóм, жывóм, вядóм...*

**151. Націск** у дзеясловах I спражэння цяп. часу ў форме 2-й асобы мн. ліку:
*несяцé, ведзяцé; нясéце, вядзéце...*

**152.** Якія **канчаткі** маюць дзеясловы II спражэння цяп. часу ў форме 1-й асобы мн. ліку пад націскам:
*сядзíм, глядзíм; сядзімó, глядзімó...*

**153.** Як утвараюцца **асновы асабовых формаў** дзеясловаў I спражэння на *-г-, -к-* (1-я асоба, адз. лік):
*стрыгý, пякý; стрыжý, пэчý...*

**154.** Як утвараюцца **асновы асабовых формаў** (1-я асоба, адз. лік):
*драмлю́, сы́плю, шчы́плю; драм'ю́, сы́п'ю, шчы́п'ю...*

**155.** Як утвараюцца **асновы асабовых формаў** (1-я асоба, мн. лік):
*сы́плем, шчы́плем (сы́племо, шчы́племо); сы́плям, шчы́плям (сы́плямо, шчы́плямо); сы́плём, шчы́плём (сы́плёмо, шчы́плёмо)...*

**156.** Якія формы мае **нетэматычны дзеяслоў** *есці*:
*ядýць; ядзя́ць...*

**157.** Як утвараюцца **формы зваротных дзеясловаў** (вымаўленне галосных [а], [о] у постфіксе *-ся* дзеясловаў 1-й асобы адз. ліку):
*баю́ся, купáюся; баю́са, купáюса; баю́сё, купáюсё; бою́с, купáюс...*

**158.** Як утвараюцца **формы зваротных дзеясловаў** (вымаўленне зычнага [с] у постфіксе *-ся* дзеясловаў 1-й асобы адз. ліку):
*баю́ся, купáюся; баю́сё, купáюсё; купáюса; купáюс; баю́са; бою́са...*

**159.** Як утвараюцца **формы буд. часу**:
*я не буду прасíць, буду жы́ць; не прасíцьму, жы́цьму...*

**160.** Як утвараюцца **формы заг. ладу** (2-я асоба, мн. лік дзеясловаў II спражэння):
*вы гавары́це, рабíце; вы гаварэ́це, рабéце...*

**161.** Як утвараюцца **формы заг. ладу** (2-я асоба, мн. лік дзеясловаў I спражэння):
*ідзíце, кладзíце, нясíце; ідзéце, кладзéце, нясéце...*

**162.** Як утвараюцца **інфінітывы**:
*браць, даць, жаць; брáці, дáці, жáці...*

**163.** Як утвараюцца **інфінітывы** з асновай на *-к-*:
*пячы́, таўчы́; пякчы́, таўкчы́; пякці́, таўкці́...*

**164.** Як утвараюцца **інфінітывы** з асновай на *-г-*:
*бéгчы, стры́гчы, дапамагчы́; бéгці, стры́гці, дапамагці́...*

## ЛЕКСІКА

### *З'явы і паняцці жывёльнага свету*

**165.** Як называецца статак жывёл аднаго віду: *табýн, чарадá, стáтак, стáда...*

**166.** Я. н. перхаць у жывёл: *чашуя́, кашутá, паршы́...*

**167.** Я. н. непакрытая шэрсцю частка пысы ў каровы: *пры́ха, мы́за, гýбы, пры́хы, хрáпы, пы́сак...*

**168.** Я. н. ніжняя сківаца ў жывёл: *скíвіцы, пашчэ́нкі, пáшчапкі...*

**169.** Я. н. бакавыя вялікія зубы ў свіней: *кло, клык, íкол...*

**170.** Я. н. капыт: *капы́т, пазуры́...*

**171.** Я. н. прагал у капыце ў парнакапытных: *рáкавіна, рáтвіца, рáпаціна, міжрáкаціца...*

**172.** Я. н. чэрава ў жывёлы: *чэ́рава, трыбýх...*

**173.** Я. н. жывёла з вялікім чэравам: *трыбухáтая, чаравáтая, букáта, юклáта, лантýх, пузáта...*

**174.** Я. н. страўнік у свінні: *кіндзюк, тэльбух, трыбух...*
**175.** Я. н. жывёла з апалымі бакамі: *тошчая, перахлябістая, худая, кошчава, падцяглая...*
**176.** Я. н. дачасны ацёл, акот: (карова, кабыла) *звергла, скінула, скідалася...*
**177.** Я. н. карова, якая першы раз ацялілася: *первацёлка, першацёлка...*
**178.** Я. н. цяля гэтага года: *гэтарашняе, сысун, гэтагодняе, цяперашняе...*
**179.** Я. н. цяля, якое перазімавала: *пярэзімак, першапашнік, пералетак, выпустак...*
**180.** Я. н. аднагадовае жарабя: *рачняк, аднагодак, гадавік, выпустак...*
**181.** Я. н. конь ва ўзросце 2 гадоў: *двухгодак, двухзімак, жарэбчык...*
**182.** Я. н. конь з норавам: *натурысты, натурлівы, зацінглівы, наравісты...*
**183.** Я. н. шрам у жывёлы: *шнар, пас, пісак, шрам...*
**184.** Я. н. бязрогая карова: *бязрогая, галуза, галузая, галамоўзая...*
**185.** Я. н. чарга пасвіць статак (радоўка): *вочарадзь, калейка, пярэпаскі...*
**186.** Я. н. самка лася (*Alces alces*): *ласіца, ласіха, лашыца...*
**187.** Я. н. вожык (*Erinaceus europaeus*): *вожык, ежык, ёжык, еж, ожык...*
**188.** Я. н. кажан (*Microchiroptera*): *лятучая мыш, кажан, раменнік, шкурат, скурат, каржан...*
**189.** Я. н. пацук (*Rattus*): *пацук, шчур, крыса...*
**190.** Я. н. дзюба ў птушкі: *дзюб, дзюба...*
**191.** Птушкі (зерне): *дзяўбуць, клююць, даўбуць...*
**192.** Я. н. самец качкі (*Anas strepera*): *качар, кáчур, качур, селязень, капчар, селязень...*
**193.** Я. н. тупы канец яйка: *каца, пуха...*
**194.** Гусі: *ґерґечуць, ґеґаюць, гагочаць, гергаюць, крычаць...*
**195.** Качкі: *квакаюць, кракаюць, грагаюць, зыпаюць...*
**196.** Я. н. бусел (*Ciconia ciconia*): *бусько, бусел, бусько, бусэнь...*
**197.** Я. н. гняздо бусла: *гняздо, буслаўка, бусліна, бухлаўка, кубло...*
**198.** Я. н. крумкач (*Corvus corax*): *крумкач, крук, воран...*
**199.** Я. н. адросткі пёраў пасля лінькі: *асны, пішчы, шпяне, дудкі, дзясна, пічые, цеслы...*

### *Раслінны свет*

**200.** Я. н. засохлае стаялае дрэва: *сухастоіна, сухапастой, сушка...*
**201.** Я. н. пілавінне: *пілавіны, апілкі, пілавінне...*
**202.** Я. н. кавалачкі сухога дрэва, прызначаныя для распальвання агню ў печы: *трэскі, распалка, падпал, цёска, паджог, ломаччэ...*
**203.** Я. н. месца на двары, дзе сякуць дровы: *дрывотня, дрывотнік, дрыварня...*
**204.** Я. н. буякі (*Vaccinium uliginosum* L.): *лахачы, лахіны. дурніцы...*
**205.** Я. н. журавіны (*Oxycoccus quadripetalus* Gilib.): *журахвіны, жураўліны, журавіны...*
**206.** Дзеяслоў са значэннем "збіраць" (пра ягады): *збіраць, браць...*
**207.** Я. н. драсён (*Polygonum hydropiper* L.): *драсён, гарчак, дракуць...*
**208.** Я. н. чорнагалоўнік (*Prunella vulgaris* L.): *чарнагалоў, чарнагалоўка, гарлянка, брунэлька, бурнэлька...*
**209.** Я. н. ваўчкі (*Bidens tripartita* L.): *ваўчкі, чарада, ваўкі...*
**210.** Я. н. піжма (*Tanacetum vulgare* L.): *піжма, ліснік...*
**211.** Я. н. пырнік (*Agropyron repens* L.): *пырнік, пырэй, пырай...*
**212.** Я. н. трыпутнік (*Plantago major* L.): *бабка, падарожнік, бабок...*
**213.** Я. н. жыгучка (крапіва з дробнымі лісточкамі) (*Urtica urens* L.): *жыжка, жыгучка, жышкая крапіва...*
**214.** Я. н. шчаўе (*Rumex acetosa* L.): *шчавей, шчаўе...*
**215.** Я. н. старая няскошаная трава: *віш, вішэй, вішар...*

**216.** Я. н. баравік (*Boletus edulis* Fr.): *грыб, баравік, праўдзівы грыб, праўдзівік, шчыры грыб...*
**217.** Я. н. бабка (падбярозавік) (*Leccinum scabrum* (Fr.) S.F. Gray): *ба́бка, беразня́к...*
**218.** Я. н. ваўнянка (*Lactarius torminosus* (Fr.) S.F. Gray): *во́ўнянка, ваўня́нка, валня́нка, валавя́нка...*
**219.** Я. н. сыраежка (любая) (*Russula* S.F. Gray): *сураве́жа, сыра́ежа, гарчакі́...*
**220.** Я. н. вязка грыбоў: *вяно́к, бунт, ве́шала, вясло́, вя́зка, шнур...*

### *Пчалярства*

**221.** Я. н. пчаляр: *пчалаво́д, бо́ртнік, пчо́ляр, пчо́льнік, пчаля́р...*
**222.** Я. н. круглы вулей, які стаіць вертыкальна: *кадо́ўб, стая́н, стая́к, кало́да...*
**223.** Я. н. пасудзіна, куды адграбаюць рой: *ко́зуб, райні́ца, рае́ўня, каро́бка...*
**224.** Я. н. прыстасаванне, з дапамогай якога робяць падкурванне пчол: *кура́ч, дыма́р, зу́бель, падкура́ч, курады́мка, дымаку́рка...*

### *Насельнікі вадаёмаў і насякомыя*

**225.** Я. н. мянтуз (*Lota lota*): *мянё́к, мянту́з, мень...*
**226.** Я. н. унутраны паветраны мяшок у рыбы: *пузы́р, дух, пухі́р, пухло́, душаві́к...*
**227.** Я. н. п'яўка (*Hirudinea*): *п'я́ўка, п'я́віца, пля́ўка...*
**228.** Я. н. апалонік (хвастатая лічынка жабы): *гала́вач, пра́чык, апало́нік, пра́нік...*
**229.** Я. н. авадзень (*Oestridae, Hypodermatinae*): *о́вад, абадзё́н, авадзё́н, абадзе́нь...*
**230.** Я. н. куслівая муха, якую баяцца коні (здрок) (*Gasterophilus intestinalis*): *здрок, стро́ка, стро́к, сляпе́нь...*
**231.** Я. н. божая кароўка (*Coccinellidea*): *бо́жая каро́ўка, пе́трык, хве́дарка, андрэ́йка, я́дзерка...*
**232.** Я. н. страказа (*Odonata*): *страказа́, ба́бка, ко́нік...*
**233.** Я. н. матыль (матылёк): *маты́ль, матылё́к, маты́лька, ба́бка...*
**234.** Я. н. вусень: *ву́сень, гу́сень, чарвя́к, осэ́ныця, гуся́нка, мо́шка, гу́сеніца...*
**235.** Я. н. павуціна: *павуці́на, павуце́нне...*
**236.** Я. н. клоп (*Cimex lectularius*): *блашы́ца, блыха́, клоп, плюска...*
**237.** Я. н. блыха (*Pulex irritans*): *блыха́, ско́чка...*
**238.** Я. н. цвыркун (*Gryllus domesticus*): *свярчо́к, свяршчо́к, свяршо́к, ту́рчык, свірку́н...*
**239.** Я. н. мурашнік: *мураве́йнік, мура́шнік, мураве́й, мураў́ё, капе́ц...*

### *Навакольныя з'явы*

**240.** Я. н. бурбалкі на лужах у час вялікага дажджу: *бу́лбаткі, бу́лькаўкі, бу́лькі, бульбу́шкі, бу́льбы, бу́нькі...*
**241.** Я. н. ледзяшы (доўгія кавалкі лёду, што звісаюць са стрэхаў зімой): *со́плі, саплякі́, супэ́ль, капяжы́, сасу́лькі, стрэ́лкі, смаркачы́...*
**242.** Я. н. вясенняя паводка: *разво́ддзе, паво́дка, зато́па, розка́лы...*
**243.** Я. н. глыбокая яма на рэчцы: *вір, яма, бу́хта, віхо́р...*
**244.** Я. н. палонка (прасечаная ў лёдзе адтуліна на рацэ, возеры): *пало́нка, про́руб, апало́нка, про́луб, пе́лька...*
**245.** Напрасткі (ісці, ехаць): *напрасткі́, про́ста, напрамкі́, наўпрасткі́...*
**246.** На кукішкі (сесці): *на ку́ркішкі, на ко́кішкі, на кара́чкі, на чу́пачкі, на цупы́шкі, на цы́пачкі...*
**247.** Я. н. багністае балота: *ба́гна, дрыгва́, драгва́...*

### *Сельская гаспадарка*

**248.** Аб працэсе з'яўлення пылу і апылення жыта: (жыта) *красу́е, расу́я...*
**249.** Я. н. перыяд уборкі збожжа: *жніво́, жні́ва, жніва́...*

